www.nv-online.info

№ 31 (3976)

23 красавіка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*



**«Народная Воля»**
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

## Еўропа гатова да дыялогу з Беларуссю. Для поўнай нармалізацыі адносін з нашай краінай Мінску застаецца прыняць толькі тры ўмовы – увесці мараторый на смяротнае пакаранне, вызваліць з-за кратаў палітвязняў і правесці свабодныя выбары.

БЕЛАРУСЬ–ЕС

# Праверка на дэмакратыю

У аўторак у Страсбургу гаварылі пра сітуацыю ў Беларусі. Парламенцкая асамблея Савета Еўропы гатова да дыялогу з Беларуссю. Пра гэта заявіў дакладчык па Беларусі камісіі ПАСЕ па палітычных пытаннях і дэмакратыі **Андрэа Рыгоні.**

У Страсбургу на пасяджэнні камітэта асамблеі па палітычных пытаннях і дэмакратыі прысутнічалі і прадстаўнік беларускага парламента (Мікалай Самасейка, старшыня камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў), і прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці (праваабаронца Валянцін Стэфановіч і грамадскі дзеяч Алесь Лагвінец).

Андрэа Рыгоні звярнуў увагу на нявырашаную праблему смяротнага пакарання ў Беларусі, мараторый на якое так і не быў уведзены. Гаварыў ён і пра ціск на палітвязня Міколу Статкевіча: *"Я, безумоўна, праінфармаваны, які ціск аказваецца на спадара Статкевіча, якога ўтрымліваюць у адзіночным заключэнні. Гэта выклікае нашу занепакоенасць».* На думку спецдакладчыка, Савету Еўропы і ПАСЕ трэба перакапацца ў тым, што ў кіраўніцтва Беларусі ёсць воля і жаданне прытрымлівацца галоўных еўрапейскіх каштоўнасцяў. *«Кампрамісаў тут быць не можа»*, – падкрэсліў Андрэа Рыгоні. Ён адзначыў, што дзень прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі *«стане важнай праверкай таго, наколькі Беларусь імкнецца да паляпшэння ўзаемаадносін з Саветам Еўропы і іншымі міжнароднымі арганізацыямі».*

І ўсё ж такі ці не галоўнае пытанне, якое даўно псуе адносіны паміж Беларуссю і Еўрапейскім Саюзам, – гэта смяротнае пакаранне, якое не адменена ў нашай краіне.

Савет Еўропы выказвае незадаволенасць з нагоды смяротных прысудаў у Японіі і ў ЗША, але да Беларусі ў гэтым пытанні мае "завышаныя патрабаванні". Бо гэта *«еўрапейская краіна, якая ў перспектыве мусіць стаць сябрам Савета Еўропы».* Так тлумачыць пазіцыю ў дачыненні да нашай краіны дырэктар Дырэктарата па палітычных пытаннях Савета Еўропы **Аляксандр Гесэль.**

Менавіта наяўнасць смяротнага пакарання з'яўляецца перашкодай для вяртання Беларусі статусу спецыяльна запрошанага ў Савеце Еўропы. Тым не менш 21 красавіка на пасяджэнні камітэта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы па палітычных пытаннях і дэмакратыі прагучалі словы, што трэба пытанне вяртання гэтага статусу нашай краіне пачынаць абмяркоўваць. Карысць ад такога вяртання, звяртае ўвагу Аляксандр Гесэль, прызнаюць і Беларусь, і Савет Еўропы. Тым не менш умова, што статус гэты вернуць толькі пасля ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне, застаецца.

"А калі ўводзіцца нейкая ўмова, то яна павінна быць выканана. Бо калі ўмовы ўводзіць, а потым іх не прытрымлівацца, то навошта было іх уводзіць? Да ўсяго я лічу, што Беларусь знаходзіцца на такім этапе свайго развіцця, калі яна шчыльна наблізілася да ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне. І яна павінна гэта зрабіць, перш чым будзе вернуты статус. Важна, што мы бачым сёння і ў Парламенцкай асамблеі інтарэс да аднаўлення шырокамаштабных кантактаў, і ў беларускіх улад такая цікаўнасць таксама ёсць. Ну, калі справа толькі ў адной невялікай умове, то, мяркую, ёсць сэнс падумаць над тым, каб яе выканаць", – сказаў Гесэль, адказваючы на пытанне "Еўрарадыё".

Са свайго боку, беларускія ўлады запрасілі прадстаўнікоў Парламенцкай асамблеі назіраць за прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі. Гэта, а таксама тое, як будзе праходзіць першы этап выбарчай кампаніі па вылучэнні кандыдатаў, агітацыі і зборы подпісаў, стане сведчаннем таго, наколькі наша краіна зацікаўлена ў развіцці дыялогу з Саветам Еўропы, сказаў Аляксандр Гесэль.

**Алег СНОЎ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Пра што гаварылі апазіцыянеры?

Намеснік старшыні руху "За Свабоду" **Алесь Лагвінец**, які выступіў у Страсбургу на слуханнях, у сваёй прамове гаварыў пра неабходнасць «роўнага і канструктыўнага дыялогу» ўнутры нашай краіны – гэтак, як улады Беларусі хочуць ад еўраструктур.

Але, на жаль, *"прырода палітычныга рэжыму ў Беларусі засталася нязменнай, бо ўлады толькі гавораць, але нічога не робяць, каб рэальна наблізіць Беларусь да стандартаў Савета Еўропы".*

*"Беларусы вартыя таго, каб карыстацца еўрастандартамі ў тым ліку ў сферы правоў чалавека, аднак па-ранейшаму палітычныя правы беларусаў не паважаюцца. Так, у сферы выбарчага заканадаўства можна канстатаваць пагаршэнне, а не паляпшэнне сітуацыі. Улады ўсяляк не жадаюць увесці простыя і зразумелы прынцып – падлік галасоў разам"*, – заявіў Алесь Лагвінец.

Ён таксама зазначыў, што *"ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне ды вызваліць палітвязняў можна і трэба было б ужо сёння». «Мікола Статкевіч ды іншыя палітвязні павінны быць на волі!"* – заявіў Алесь Лагвінец.

Пры гэтым адзін з кіраўнікоў руху "За Свабоду" падкрэсліў, што апазіцыя выступае за мірныя перамены і нацыянальную кансалідацыю.

## Вясна вяртаецца!

Памерзлі і досыць! Зацяжное пахаладанне заканчваецца, паўночныя вятры змяняюцца на паўднёвыя, і да нас пачнуць паступаць больш цёплыя і камфортныя паветраныя масы.

Пра гэта распавёў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Дзмітрый Рабаў.**

У пятніцу 24 красавіка будзе пераважна без ападкаў, толькі ноччу і раніцай месцамі па паўночным усходзе кароткачасовыя дажджы. Днём у асобных раёнах Віцебскай вобласці ўзмацненне ветру парывамі да 15–18 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +1...+7°С, максімальная днём +12...+18°С, па поўдні +19...+21°С.

У суботу і нядзелю таксама будзе пераважна без ападкаў. Максімальная тэмпература днём +18...+25°С.

ВІНШУЕМ!



Сямейны партрэт – пакуль без Цімафея.

# Новая вышыня Алы Цупер

*Алімпійская чэмпіёнка па фрыстайле Ала Цупер нарадзіла сына Цімафея.*

Перад Гульнямі-2014 у Сочы Ала Цупер пакінула вялікі спорт. Выйшла замуж, нарадзіла дачку Лізу. Праўда, затым галоўны трэнер зборнай Мікалай Казека і муж Яўген угаварылі яе вярнуцца ў спорт, і вяртанне было проста феерычным – на Алімпіядзе ў Сочы фрыстайлістка заваявала "золата".

*"Ала ў добрым рэжыме адпрацавала два трэніровачныя зборы, але затым высветлілася, што яна зноў чакае дзіця, і трэніроўкі спартсменка спыніла*, – распавёў напрыканцы мінулага года **Мікалай Казека**. – *Не ведаю, ці канчаткова яна развіталася са спортам альбо пасля родаў ізноў вернецца. Спадзяюся, нам не прыйдзецца зноў заклікаць яе, як у мінулы раз..."*

– Учора сыну Цімафею споўніўся роўна месяц, – распавяла **Ала Цупер** "Народнай Волі". – Нараджала ў цэнтры "Маці і дзіця", усё прайшло нармальна. Зараз крыху складаней з двума дзеткамі, бо кожны патрабуе ўвагі, але муж дапамагае. Дачцэ хутка ўжо будзе тры гады, таксама і пагушкае малога, і пацалуе. Добрая памочніца расце...

**Алесь СІВЫ.**

АКЦЫЯ



## «Чарнобыльскі Шлях» дазволены

Мінгарвыканкам даў дазвол на правядзенне ў сталіцы "Чарнобыльскага Шляху". Пры гэтым зменены час збору ўдзельнікаў – гэта будзе паўгадзіны з 14.00 да 14.30. Само шэсце адбудзецца з 14.30 да 16.00.

Першапачаткова арганізатары планавалі правесці збор удзельнікаў з 14.00 да 15.00, а на саму акцыю аддаць гадзіну з 15.00 да 16.00. Пры гэтым сёлетні "Чарнобыльскі Шлях" абмяжуецца толькі шэсцем, мітынгу на плошчы Бангалор не будзе – няма грошай, адзначаюць у аргкамітэце правядзення акцыі.

Сёлета шэсце пройдзе пад агульным лозунгам "Не!" расійскай ядзернай пагрозе!".

НЕЗЛОБИВЫЕ ЗАМЕТКИ



*Семен БУКЧИН*

# Кто не скачет – того отстреливают

## *Памяти украинского журналиста и писателя Олеся Бузины*

Прошла неделя после того, как в Киеве посреди бела дня пятью выстрелами в упор был убит Олесь Бузина. В минувшее воскресенье его похоронили. Ему было 45 лет. Остались дочь, жена.

За эти дни многое можно было прочитать в интернете и услышать на телеканалах. Олесь Бузина – жертва развязанного в Украине нацистского террора. Его убийство – дело рук российских спецслужб, заинтересованных в дестабилизации обстановки в Украине. О терроре, о травле инакомыслящих и угрозах в их адрес говорили среди многих прочих украинские журналисты, друзья и коллеги Бузины. О желании «определенных сил» «дестабилизировать обстановку в стране» высказались в высшем руководстве Украины.

Полагаю, что в анализе происходящего в Украине не помешает печальная статистика. За последние три месяца в стране были убиты и покончили жизнь самоубийством десять человек – шестеро оппозиционных политиков и четверо журналистов. За три апрельских дня, с 13-го по 16-е, убиты три журналиста – Сергей Сухобок, Ольга Мороз, Олесь Бузина. За день до убийства Бузины застрелен известный оппозиционер, депутат-регионал Олег Калашников. Конечно, если есть сильное желание, можно утверждать, что это действуют агенты российской ФСБ. Короче – Путин, как может, вредит Украине. Но вот владельцы украинского сайта «Миротворец» не только не отрицают, что собирают информацию (адреса, телефоны и проч.) об «антипатриотически настроенных» гражданах Украины, но и заявляют, что сбор таких сведений будет продолжаться и ими могут воспользоваться борцы с «врагами Украины». Не считаю возможным цитировать кощунства, высказанные по поводу убийства Бузины депутатом-скандалистом Верховной Рады Олегом Ляшко и совершенно обезумевшей на русофобской почве экс-депутаткой Ириной Фарион.

А упоминаю об этих фактах только как о свидетельствах той атмосферы ненависти, которая захлестнула Украину и переместилась за ее границы – в Россию и – если верить интернету – в Беларусь. Я писал об этой опасности (см. мою статью «За порогом ненависти», НВ, 9 сентября 2014 г.). Возможно, кому-то думалось: ну постреляли на Майдане больше года назад, ну началась война на юго-востоке, но вот же есть новый парламент, новое правительство. Да, есть и парламент новый, и правительство другое. Но помните слова из громкой советской песни – «нет у революции конца»? Революция всегда ищет контрреволюцию. Она без нее не может, революция без «контры» чувствует себя неполноценной.

В годы Великой французской революции был издан «закон о подозрительных». И на гильотину поволокли тысячи людей, на которых поступили доносы. Как обходились с «подозрительными» большевики – общеизвестно. А что же нынче в Украине? А там вместо «подозрительных» в ходу выражение «бытовой сепаратизм». Это когда человек никаких конкретных действий против существующей власти не предпринимает, но в быту – на службе, дома, на лестничной площадке – высказывает симпатии в адрес сепаратистов из ДНР и ЛНР. Таких людей нужно брать на заметку. Потому что сегодня он просто высказывается, а завтра поедет помогать ополченцам или замыслит террористические акты.

Но если «бытовых сепаров» можно для начала только регистрировать, то как быть с людьми, открыто позволяющими себе самую резкую критику нынешней власти? Вот тот же бывший депутат Олег Калашников открыто носил на пиджаке георгиевскую ленточку, возглавил какой-то союз офицеров, готовил общественную акцию в связи с 9 Мая. Можно, конечно, арестовать и отдать под суд. Тем более что свежепринятый закон о запрете всего коммунистического и нацистского в Украине это позволяет. Но судить видного деятеля за политические взгляды как-то неудобно. Все-таки Украина считает себя демократическим государством.

Тогда что остается? Остается ненависть. Проповедь ненависти. По всем медиаканалам, со всех трибун. Если ненависть проповедовать ежедневно, она быстро заполняет человеческий организм – от пяток до головы. Так было во времена Гитлера и Сталина. И тогда на гребне ненавистнической волны, на гребне неприятия инакомыслящих до нервной дрожи во всех клетках зарождаются убийства. Не нужно никаких усилий со стороны СБУ и прочих спецслужб, никаких тайных приказов от высшего начальства страны. «Убийственная инициатива» возникает сама, снизу и, соответственно, оформляется и предлагается – используйте нас, мы готовы. Естественно, из самых высоких патриотических соображений. А некие дяди из соответствующих служб могут только намекнуть, что, мы, мол, не против, и даже пообещать прикрытие. И вот «романтики революции достоинства» надевают маски, берут оружие и просто отправляются по адресу, указанному на сайте «Миротворец». Они будут вершить «высший суд». Революция продолжается. «Контру» нужно кончать.

И вот уже налицо результаты. Не будет больше Олег Калашников расхаживать по Киеву с георгиевской ленточкой на пиджаке, не будет клеймить в своих речах «фашистскую хунту». Навсегда замолк и Олесь Бузина. О нем несколько слов особо.

*(Окончание на 2-й стр.).*

СІТУАЦЫЯ

# Саюзнікі на мяжы сваркі

Ініцыятыву Уладзіміра Пуціна па ўвядзенні ў Еўразійскім эканамічным саюзе адзінай валюты не падтрымаў Казахстан.

Намеснік міністра нацыянальнай эканомікі Казахстана Цімур Жаксылыкаў паведаміў: *"Казахстан выключае магчымасць таго, што ў Еўразійскім эканамічным саюзе (ЕАЭС) будзе ўведзена адзіная наднацыянальная валюта".*

*«Гэтыя пытанні мы не абмяркоўваем. Гэта не ёсць тэма парадку дня»*, – адзначыў Жаксылыкаў. Ён дадаў, што да 2025 года ў рамках ЕАЭС плануецца правесці толькі гарманізацыю заканадаўства ў галіне рэгулявання фінансавых рынкаў.

А вось афіцыйны Мінск у дадзеным пытанні гатовы стаць на бок Расіі і падтрымаць ініцыятыву Уладзіміра Пуціна.

*«Валютны саюз – адна з апошніх фаз інтэграцыі. Мы лічым, што тая дата, якая вызначана дамовай аб стварэнні ЕАЭС, – гэта позна*, – паведаміў нядаўна журналістам былы прэм'ер-міністр, а зараз старшыня Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч. – *Ва ўмовах, калі няма дастатковай стабільнасці на фінансавых рынках, безумоўна, мы павінны набліжаць гэты тэрмін».* Паводле яго слоў, пытанні далейшай інтэграцыі ў валютнай і фінансавай сферах абмяркоўваліся з расійскім бокам, у прыватнасці з прэм'ер-міністрам Дзмітрыем Мядзведзевым і старшынёй Савета Федэрацыі Федэральнага сходу Валянцінай Мацвіенка. *«Мы казалі пра тое, што трэба наблізіць тэрміны інтэграцыі, каб першыя этапы валютнага саюза маглі запрацаваць у бліжэйшыя тры-чатыры гады»*, – дадаў старшыня Савета Рэспублікі.

Такім чынам, паміж саюзнікамі па ЕАЭС наспявае сур'ёзны канфлікт.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ТЫМ ЧАСАМ

# Яшчэ адзін галаўны боль

Кыргызстан звярнуўся да ПАСЕ з просьбай дапамагчы ў экстрадыцыі з Беларусі Курманбека і Жаныша Бакіевых – былога прэзідэнта гэтай краіны і ягонага роднага брата.

На пленарным пасяджэнні ПАСЕ старшыня камітэта па міжнародных справах кіргізскага парламента Каныбек Іманаліеў нагадаў, што ў 2010 годзе краіна перажыла шэраг важных падзей. 7 красавіка 2015 года споўнілася роўна пяць гадоў з дня Народнай рэвалюцыі.

*«Бакіевы асабіста аддалі загад на расстрэл людзей, якія выйшлі на мірны мітынг. Гэта быў апагей іх крывавага рэжыму. Былі забіты мірныя грамадзяне. Загінула больш за 120 чалавек, больш за 1 тысячу атрымалі раненні. Прэзідэнт Бакіеў, яго брат Жаныш, які ўзначальваў службу дзяржаховы краіны, старэйшы сын Марат уцяклі з краіны. На радзіме яны завочна абвінавачаны ў масавым забойстве, звязаным з перавышэннем службовых паўнамоцтваў, і аб'яўлены ў міжнародны вышук»*, – перадаюць інфармагенцтвы словы Іманаліева. Ён згадаў, што ў часы кіравання Бакіевых у краіне адбываліся шматлікія заказныя забойствы дэпутатаў, бізнесменаў і журналістаў.

Нагадаем, што Бакіеў з сям'ёй знаходзіцца ў Беларусі. Аляксандр Лукашэнка прызнаваўся, што сам даў загад выратаваць экс-кіраўніка Кыргызстана падчас рэвалюцыі. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, Бакіеў атрымаў беларускае грамадзянства. Усе апошнія гады Бішкек беспаспяхова дамагаецца ад Мінска выдачы Бакіевых.

Сёлета ў лютым Кыргызстан і Беларусь абмяняліся рэзкімі заявамі пасля забойства ў Мінску кіргізскага крымінальнага аўтарытэта. У Бішкеку ўпэўнены, што за злачынствам стаіць сям'я Бакіевых, і патрабуюць іх выдачы.

У сваю чаргу МЗС Беларусі кажа, што Кыргызстан мае спецыфічны падыход да правасуддзя. Беларускае дыпламатычнае ведамства сумняваецца, што кіргізская дзяржава можа забяспечыць выкананне правоў сваіх грамадзян, у тым ліку і права на справядлівую судовую абарону.

КАМПРАМІС

## Мінск стане пляцоўкай гандбольнай згоды?

*Адборачныя матчы гандбольных зборных Расіі і Украіны плануецца правесці ў беларускай сталіцы.*

Кіраўнік Федэрацыі гандбола Расіі Сяргей Шышкароў паведаміў, што адборачныя матчы чэмпіянату Еўропы-2016 пройдуць 10 і 11 чэрвеня ў Мінску.

Раней сустрэчы з-за напружанай палітычнай абстаноўкі былі перанесены спачатку з кастрычніка на красавік, а затым – з красавіка на чэрвень.

*«Прынцыпова гэтае пытанне ўжо вырашана,* – цытуюць расійскія СМІ **Сяргея Шышкарова**. – *Засталося толькі дачакацца пацвярджэння з боку Еўрапейскай федэрацыі гандбола. Мы знайшлі кампрамісны варыянт пры актыўным пасрэдніцтве кіраўніка НАК Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Ён паабяцаў, што сустрэчы будуць арганізаваны на вышэйшым узроўні".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ШЛАГБАУМ

# Литва защищается

С 1 мая 2015 года подакцизные товары в личном багаже или топливо в баке личного автомобиля могут беспошлинно ввозиться в Литву не чаще 3 раз в месяц.

Нововведение никак не затронет белорусов, посещающих Литву три и менее раз в месяц. Те же, кто поедет 4-й и более раз, заплатит сборы за перемещение через границу, например, топлива и сигарет.

В таможенном департаменте Литвы пояснили: определять количество и стоимость товара, подпадающего под уплату сборов, таможенники будут на местах. Журналистам привели несколько примеров.

Дизельное топливо: если в баке вашего автомобиля на момент въезда в Литву находится 10 литров солярки, сумма сборов (акциз плюс НДС) составит 4 евро, 20 литров – около 10 евро, 60 литров – около 25 евро. Бензины: если в баке вашего автомобиля на момент въезда в Литву находится 10 литров бензина, сумма сборов (акциз плюс НДС) составит 6 евро, 20 литров – около 13 евро.

Следует иметь в виду, что количество пересечений границы «привязаны» к человеку, а не к автомобилю! То есть если вы три раза въезжали в Литву на автобусе или поезде, а четвертый – поехали на личном авто, сборы за ввозимое топливо придется заплатить.

– Что касается сигарет, то здесь сумма сборов будет варьироваться в зависимости от марки, ее посчитает таможенник при ввозе гражданином. В целом же стоит знать, что ставка НДС в Литве – 21%, – напомнили в Таможенном департаменте.

## Віктар КАЗЬКО

### З цыкла «На кручку»

# Плач касаткі па-над водамі Усуры

*(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).*

Перамагаюць інстынкт натоўпу, жаданне еднасці з ім, асалоды зліцця пачуццяў, экстаз першабытнасці. І сам я тут не выключэнне.

Злавіў сябе на гэтым, калі Іман развітваўся з Дэмакратам Уладзіміравічам Лявонавым. Была на тым развітанні яшчэ не старая жанчына з двух- ці мо трохгадовым замурзаным хлопчыкам на ацяжэлых руках. Жанчына – не ведаю, кім яна даводзілася Лявонову, мо нікім. Але плакала яна ўголас і не саромелася слёз. Плакаў і хлопчык, слёзы нястрымана дзвюма дарожкамі цяклі па яго твары. А вось голасу, плачу яго я не чуў. Пэўна, ён плакаў пад настрой і стан маці. Самога ж плачу да мне не даносіла. Як вушы, а мо і душу заклала. Ці таму я і настыраўся з фотаапаратам, нібыта імкнуўся ім злавіць голас хлопчыка. Злавіць у пастку ўласнай пустаты, што валодала мной на той час.

Дабіўся толькі таго, што жанчына пачала хавацца ад майго фатаапарата, настырнасці маёй аглухлай душы. І безгалоссе хлопчыка, а пазней і жанчыны, было адзіным здабыткам сляпога фотаапарата. Хаця галашэнне, па маіх меркаваннях ужо сёння, было мо даволі гучным, толькі не дадзена было мне пачуць яго, як, пэўна, і развітальнаму натоўпу пачуць яго. Толькі слязінка дзіцяці, нямы дакор смерці.

Я пачуў яго плач на той жа рацэ дзесьці праз год з нечым. Так у мяне ўжо склалася і адбылося. Мая камандзіроўка на востраў Даманскі зацягнулася замест тыдня амаль на месяц. Сустрэчы і паездкі на заставы і ў шпіталь. Гутаркі с пагранічнікамі, сякі-такі ўдзел у іх жыцці, за-за чаго, дарэчы, пазней мяне пачалі з маёй газеты цягнуць у акружную ваенную: не пойдзеш у газету акругі – пойдзеш палітруком у роту.Ледзь адбіўся.

Адстаяў мяне мой рэдактар, звярнуўся да сакратара абкама партыі. І той цыкнуў на ваенных. Такім чынам мая вайсковая кар'ера была загублена, я назаўсёды застаўся радавымнеабучаным. Але, пэўна, і за гэта, і за камандзіроўку на Даманскі, і за сваю душэўную глухату – за слязінку дзіцяці – усё ж сплаціў здароўем. Зубы мудрасці тады так і не прарэзаліся, але дзясну разнесла так, што яна не памяшчалася ў роце. Рот сцягло, што курыную гузку, і я не здолеў есці. Адно толькі піў – суп, ваду, напоі і, зразумела, усё іншае. У новасібірскім аэрапорце Кальцова, куды звярнуўся ў медпункт, мяне хацелі зняць з рэйсу – тэмпература сорак адзін градус, з наступствамі. Палёт у Кемерава заканчваў у туалеце. Але дома, у рэдакцыі і хаце, паспеў яшчэ “адпісацца”.

А далей былі бальніцы, бальніцы з самым жахлівым, хаця, дзякуй Богу, пазней і не спраўджаным, дыягназам. Наступным ужо летам жонка дабілася мне пуцёўкі на рэабілітацыю ў санаторый “Шмакаўка” – на тую ж савецка-кітайскую граніцу на раце Усуры. Вось так лёс гуляе з намі. Я з радасцю падпарадкаваўся гэтай гульні. Больш таму, што Усуры засталася не аблоўленай мной. А так хацелася яе рыбы, не толькі нашай, але і кітайскай, што я яшчэ на падлёце да Шмакаўкі імгненна аздаравеў. Наведаў мінулагодніх сяброўпагранічнікаў.

– А жывём нішцяк, – паведамілі яны мне. – Кітайцы спакойныя, толькі панаставілі на сваім беразе нам на пагляд партрэты Мао Дзэдуна. А мы ім у адказ клазеты без задніх сценак. Партрэты кітайцы прыбралі.

Вось такі салдацкі гумар. І я павесялеў у Шмакаўцы. Увогуле варта адзначыць, што на лепшае лячэнне і адпачынак, чымсьці там, мне нідзе больш не шчасціла. З-за мяжы, глушы санаторый быў яшчэ не спаскуджаны фанабэрыяй наменклатурных хворых. Здаровыя людзі, ветлівасць і прыязнасць абслугоўвання без клопату, каму, колькі і за што даць. Вартасць, годнасць і гонар двухбаковыя, сапраўды пралетарскаінтэлігентныя. Чысціня паветра і душ такія, што я не меў часу хварэць, заняўся адзіна маючай быць у такім эдэме рыбалкай, хаця Усуры, па ўсім, была не маёй ракой.

Лічылася яна горнай, але тут была раўніннай. Сопкі, што па восені як пазалочаныя макаўкі цэркваў, зусім не горы, хаця мо і храмы. Рака абягала іх, ад кожнай срэбрам і золатам прымала даніну і старажытным Кіцежам з лёгкім трымценнем сусальнага золата ў адбітку вады вяртала на пагляд воку і свету. Гожа і да расплаву таго ж золата ў душы, да дрогкай слязы ў сярэдзіне – па-боску чаравальна і да перахопу дыхання вабна.

Але мая рыбацкая душа звыкла зусім да іншых рэчак. Сувора строгіх і бурклівых сібірскіх. Да зацята сакрытых, на першы погляд рахманых , але донна напятых, як сам беларус-паляшук, Прыпяці з Сожам і Бярэзіны. У іх я адчуваў нешта карэнна стрыжнявое. Характар. Асабліва ў Прыпяці. Нічога знешне кідкага, паказнога, пры беразе, нягледзячы на віры і ямы, віхуры, адбойную плынь з вінтавой прыцягальнай і любай, як ў вясковай прыгажуні на шчацэ, рухомай ямачкай, што ад вялікага глыбу, донца прыпяцкай вады, сэрца ракі, у якім атабарыўся і пражывае сівы волат, сом-гаспадар.

Кручоная паверхневасць віру плешчацца аб яго лабаціну і па вусіках, па вусіках струменна бяжыць прэч, да сярэдзіны ракі, да яе фарватару, дзе прыхаваны нябачны воку стрыжань. Не прывядзі Гасподзь патрапіць у яго, даверыцца яго абдымкам, куды больш моцным за абдымкі жанчыны, у ласкавай і няўмольнай жарсці якой застаецца толькі адно – працягнуць ногі. Такая ўжо нарачонасць бягучай вады Палесся, такі яе пракаветны стрыжань і нораў. Характар. Гэтага я не адчуў ва Усуры. Хаця, канечне, памыляўся, як кожны кулік у чужым балоце. А балота было, безумоўна, чужым і мо больш кітайскім, з усходнімі хітрыкамі і прыхамацямі. Недарма ж яны штодзень казалі нам па сваім радыё: добры вечар вам, дарагія сібіракі, часова пражываючыя на кітайскай тэрыторыі.

Мо таму і не таланіла мне на ловы чужой рыбы ў чужым краі. Чужое неба, чужая вада, чужы голас акалялі мяне. А рыбы? І блізка не было ні знакамітага сібірскага тайменя. Ні востра-, ні тупарылага выбітнага лянка, нічога ўжо не гаворачы пра таўсталобаў і экзатычных аўхаў. Звычайныя дробныя і смеццевыя ельчыкі, чэбачкі ды ўсёісныя яршы. Такімі ловамі я мог задаволіцца ўсюды, не злазячы з печы. І на якую насадку я тую рыбу ні лавіў, чым ні прынаджваў – і чылімам (прэснаводнай мясцовай крэветкай), і жалезняком (чорным чарвём), і звыклымі мне кашамі, хлебам, мухамі ды сляпнямі – вынік адзін-адзіны: безнадзейна безвынікова.

Праўда, іншым разам трапляла рыба не рыба, жывёла не жывёла – дзіўнае божае стварэнне, нарачонае мясцовымі людзьмі конь-губар. Пра губы сказаць нечага, ці не сіліконавыя? А вось конь быў сапраўдны, з высока ўзнятай , хаця і без грывы, галавой, па-конску выпнутай грудзінай. Конь дый годзе! Толькі надта ж маленькі і з сядалішчам, больш прыдатным шахматнай дошцы, хоць ты яго бяры і даруй гросмайстрам, Каспараву ці Купрэйчыку. Мо дапаможа справіцца з рудым амерыканцам Фішэрам. Але лавіць таго губатага коніка я не хацеў, шкадаваў і трохі грэбаваў. Наедкі з яго ані плюнуць, няхай бяжыць зноў у раку па бацьку, сапраўднага каня, нашага калгаснага мерына.

Так пазабаўляўся я на Усуры да пары да часу. Пакуль не злавіў аднойчы штосьці невытлумачальнае. Клюнула хіжа, па-акунёваму – і адразу на дно. Я пацёг без падсечкі. На кручку зноў было нешта незвычайнае, маленькае, але таўсматае, накшталт сцятага вялізнага выпаўзка. Я ўзняў вуду і па-рыбацку выставіў насустрач гэтаму стварэнню руку. Але сябра, з якім я рыбаліў, адбіў маю руку ў бок лёту ад стварэння, паспеў яшчэ мовіць:

– Небяспечна, касатка-скрыпут. У шыпах – атрута. Не смяротна, але руку, што лялька, доўга будзеш насіць...

Ён яшчэ мне нешта даволі доўга гаварыў, але я ўжо нічога не чуў. Заклала вушы. Мой улоў, мая здабыча плакала не пачутым год таму дзіцячым голасам. Закладзеныя пустатой у той час пры развітанні Імана з палкоўнікам вушы, здаецца, ачуліся. Я не ведаю, як плачуць рыбы і ці плачуць яны ўвогуле. Ці маюцца сярод вады ў іх слёзы і якія яны, салёныя, як і нашы, ці са слодычам, што наша ж кроў? Адным мірам і горам мы з імі заручоныя ці падзеленыя і развядзёныя назаўжды?..

Гэта ўжо, пэўна, больш сённяшняе, хаця і з мінулага. Ад безгалосага плачу дзіцяці год таму. Плачу, да якога я быў глухі.

Над водамі прыморскай ракі Усуры горка і па-дзіцячы несуцешна плакала рыба-касатка. Я кінуў на беразе вуды і пайшоў прэч ад гэтага плачу. А на другі дзень, не дабыўшы свой тэрмін у санаторыі, быў у небе. Прыспешваў самалёт як мага далей ад ракі, якую сніў ў дзіцячых снах, ад мары, якая збылася, але не заручылася яшчэ з пустатой.

*(Цалкам цыкл будзе надрукаваны ў часопісе “Дзеяслоў”).*

ВНЕ ИГРЫ




# Беспредел

***На прошлой неделе футбольное минское «Динамо» потребовало от милиции извинений за «неподобающее отношение» к своим болельщикам.***

Владельцы сезонных абонементов категории Premium, в том числе семьи с детьми, направлялись в Гродно на матч первого тура чемпионата «Неман»–“Динамо-Минск» на специальных автобусах. Выезд *«был омрачен неподобающим отношением к болельщикам «Динамо»,* сообщил клуб.

Как говорится в заявлении, по неизвестной причине сопровождавшие болельщиков сотрудники правоохранительных органов не разрешили автобусам останавливаться у пунктов придорожного сервиса (остановок было две – в лесу), на стадионе запрещали есть. После этого некоторые болельщики решили из Гродно добираться своим ходом, только бы не в сопровождении ОМОНа.

Впрочем, такое беспредельное поведение милиции по отношению к футбольным болельщикам – не новость для Беларуси. Например, на стадионе милиционеры могут не пускать болельщиков в туалет, иногда попасть на трибуны человек может, только пройдя проверку в «автозаке».

А потом мы удивляемся, почему на стадионы сегодня приходят по 100 болельщиков. Такой футбол никому не нужен!

**Алесь СИВЫЙ.**

ПО ПОВОДУ

## Геннадий ТУМИЛОВИЧ:

# “В Беларуси к футбольным фанатам относятся как к отбросам общества»

***Известный белорусский вратарь рассказал о взаимоотношениях белорусской милиции и футбольных болельщиков.***

– Еще тема – отношение милиции, – цитирует by.tribuna.com **Геннадия Тумиловича**. – Я так понял, меры стали ужесточать. Ну что за бред?! Вот как объяснить людям в погонах и чиновникам происходящее? Румас (*Сергей Румас – председатель Белорусской федерации футбола. –* ***Авт.***) у нас кто?.. У него хорошая должность. Председатель же может позволить себе какое-то общение с представителями МВД. Неужели нет?

С нынешним отношением у нас как не было болельщиков, так и не будет. Приезжает ОМОН, окружает сектор с фанатами. Получается удивительная картина: омоновцев больше, чем фанатов. И милиционеры еще и провоцируют болельщиков. Когда был спортивным директором «Динамо», насмотрелся... Вот сектор. Вы же его окружили. Сколько там людей: 200, 300, пусть 500, пусть 1000. Но вы же их контролируете. Пусть они внутри вашего периметра хоть уср..., они же никому чисто физически не могут помешать в кольце ОМОНа.

Какое ужесточение? Какое?! Мы во время моей работы в «Динамо» проводили встречу с людьми из МВД. Я, милиционер в серьезном чине и представитель фанатского движения. «Вы не пейте!» – «Вы не бейте!» Вроде поговорили. Вроде друг друга поняли. И в этом нет ничего сложного. Просто относитесь к людям нормально. Не как к отбросам общества. А к посетителям стадионов в Беларуси именно так и относятся.

Слушай историю. Играли в Минске БАТЭ с «Барселоной». Мы добирались из Питера целый день на машине. Кто не за рулем, выпил чуть-чуть. Один – президент федерации футбола Ленинградской области, второй – известный в России агент. Пришли на вход. Там омоновцы шмонали какого-то пацана. Мои попутчики как увидели – офигели. Вступились за парня. Естественно, их «закрыли». А я стою такой в костюме сборной Беларуси. Понятно, меня узнают. Не все, но узнают. Пытаюсь объяснить: мол, это ребята из России, их пригласили на матч. Ни хрена. Пока не нашел Капского (*Анатолий Капский – председатель правления ФК БАТЭ. –* ***Авт.***), пока не нашел начальника ОМОНа, вопрос не решили. При этом мне пришлось пройти через другой вход. И знаешь, там стояли такие менты 18–19 лет, что страшно. Стоит чудачок и тыкает взрослым мужикам: «Карманы выворачивай, я тебе говорю!» Я уже не решился делать замечание, чтобы помочь своим товарищам. Хорошо, что замяли в итоге.

И ведь на хоккее такого нет. Потому что, если все же случится, кто-то будет сильно недоволен. И за хоккей сразу нахлобучат. А футбольные фанаты – это почему-то отбросы общества. Это самое мерзкое, что может быть. Все вот говорят про выпивших посетителей. Ну, они же на стадион приходят эмоции выбросить. Понятно, есть быдло, которое напивается в г... Да, таких гнать надо. Но не все же бухают сверх меры. А что, сами менты не пьют? Уверен, среди них тоже хватает быдла. Нахлобучил погоны – и уже как будто человек.

А в федерации сидят ребята с позицией: «Ой, этим клубы должны заниматься». Блин, да решите вы вопрос! Просто один раз. В Минске же пьют пиво на хоккее. А на футболе только собираются разрешить. И то вроде бы. А наше «вроде бы» приведет к тому, что люди на хоккее пили, пьют и будут дальше и чувствовать себя комфортно, а на футболе ничего не изменится...

Во время чемпионата мира по хоккею ведь не было такого отношения. И это страшно. Вот всем моим русским друзьям очень нравится Беларусь, белорусы, белорусские города, белорусская чистота, белорусский президент. Всем все нравится. Но почему сами белорусы друг к другу относятся, как собаки голодные?..

ПЫТАННЕ – АДКАЗ

## Дзе зараз Віктар Ганчарэнка?




*“Пасля таго, як галоўны трэнер барысаўскага БАТЭ Віктар Ганчарэнка перайшоў у расійскую “Кубань”, а пасля сышоў і адтуль, пра беларускага спецыяліста амаль нічога не чуваць. Дзе ён зараз? Ці шукае новае месца працы?”*

**Пётр КАРПОВІЧ, Мінск.**

– Краснадарскую “Кубань” Віктар Ганчарэнка пакінуў восенню мінулага года, але з таго часу ён так і застаецца без працы. Было шмат чутак аб магчымых новых клубах, куды могуць запрасіць беларускага трэнера, але не больш за тое.

Зараз, паводле інфармацыі расійскага выдання “Советский спорт”, прынята прынцыповае рашэнне аб тым, што з новага сезона ў маскоўскага “Спартака” будзе новы галоўны трэнер. Маўляў, **Мурат Якін** пакіне каманду, а найбольш верагодныя кандыдатуры на пасаду галоўнага трэнера з новага сезона – гэта беларус **Віктар Ганчарэнка** і расіянін **Дзмітрый Аленічаў**.

Інфармацыя пакуль не знайшла пацвярджэння *“з першых вуснаў”.*

Віктар Ганчарэнка заяўляе, што ніхто з прадстаўнікоў “Спартака” з ім не звязваўся.

Зрэшты, бывае, што чуткі публічна абвяргаюцца зацікаўленымі бакамі, а ў выніку менавіта гэтая інфармацыя і аказваецца праўдзівай. Таму час пакажа.

## З кім згуляюць беларусы на чэмпіянаце свету па хакеі?

*“Нагадайце, калі ласка, калі пройдзе чарговы чэмпіянат свету па хакеі і з кім у групе згуляюць беларусы?”*

**Павел Сяргеевіч АСТРОЎСКІ, Вілейскі раён.**

– Чэмпіянат пройдзе з 1 па 17 мая ў Чэхіі. Зборная Беларусі ў сваёй групе на папярэднім этапе згуляе з камандамі Фінляндыі, Расіі, ЗША, Славакіі, Нарвегіі, Славеніі і Даніі.

У мінулым годзе на дамашнім першынстве беларусы занялі пачэснае 7-е месца. Паглядзім, ці змогуць яны і зараз паўтарыць той поспех.

## Ці з'явіцца ў Беларусі закон аб балельшчыках?

*“Чуў, што ў Беларусі можа з'явіцца закон аб балельшчыках. Ці можна паведаміць аб гэтым падрабязней?”*

**Валянцін СЦЕПАНЕНКА, Гомель.**

– Гэта пакуль усяго толькі ініцыятыва, з якой выступіла Беларуская федэрацыя футбола на апошняй справаздачна-выбарчай канферэнцыі.

На думку кіраўніка федэрацыі **Сяргея Румаса**, такі закон дапаможа вярнуць балельшчыкаў на стадыёны і на дзяржаўным узроўні вызначыць правы і абавязкі ўсіх, каго гэта датычыцца.

Румас нагадаў на канферэнцыі, што апошнім часам мноства аматараў футбола перасталі хадзіць на футбольныя матчы. Адной з галоўных прычын яны называюць занадта строгае стаўленне да балельшчыкаў з боку міліцыі. Кіраўнік федэрацыі футбола абяцае, што будзе зроблена ўсё магчымае, каб гледачы вярнуліся на трыбуны, а тыя, хто забяспечвае бяспеку, усяляк спрыялі гэтаму.

Ініцыятыву, дарэчы, падтрымаў і першы віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі, памочнік кіраўніка дзяржавы па пытаннях фізкультуры, спорту і развіцця турызму **Максім Рыжанкоў**.

## Які кошт білетаў на чэмпіянат Еўропы па мастацкай гімнастыцы?

*“Вельмі хачу пайсці на чэмпіянат Еўропы па мастацкай гімнастыцы, які пройдзе ў Мінску, але вагаюся... Раскажыце, якія будуць кошты на білеты”.*

**Святлана МІРОНЧЫК, Мінскі раён.**

– Першынство Еўропы пройдзе на «Мінск-Арэне» з 1 па 3 мая 2015 года. Кошт білетаў вагаецца ад 50 да 110 тысяч рублёў, хоць кошт квіткоў на «Шоу зорак сусветнай гімнастыкі» складае ад 100 да 300 тысяч рублёў. Абанемент на ўсе дні спаборніцтваў будзе каштаваць 105–285 тысяч рублёў.

Дарэчы, арганізатары турніру не выдаюць усіх сакрэтаў шоу, але запэўніваюць, што рыхтуюць праграму, якая ўразіць гледачоў.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СТРАТЫ

# Урок беларускі.

## Памяці Марыі Лукашук

*У Брэсце памерла Марыя Пракопаўна Лукашук. Сталая чытачка і аўтар “Народнай Волі” з першага нумара газеты, маці дырэктара Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандра Лукашука.*
*Памяці Марыі Пракопаўны аўтар Радыё Свабода Сяргей Навумчык прысвяціў гэтыя радкі.*



***Васіль Быкаў і Марыя Лукашук. Прага, 2003 год.***

Ёй было 88 гадоў, яна ўсё жыццё выкладала беларускую мову і літаратуру. Мы жылі ў розных гарадах, і я, канешне, не быў яе вучнем – але ў драматычныя для сябе дні атрымаў ад яе ўрок, які якраз быў звязаны з беларускай мовай. Але не толькі з мовай.

За беларускую мову яна магла заплаціць і жыццём. У часы Другой сусветнай вайны 15-гадовая Марыя была прызначана акупацыйнымі нямецкімі ўладамі спачатку настаўніцай, а потым дырэктаркай пачатковай школы. Яна прыгадвала, што ў школе не вялі ніякай прапаганды, не было нават партрэтаў Гітлера – проста вучылі дзяцей (павінен жа быў нехта іх вучыць – усе чатыры гады акупацыі. Ці дзеці павінны былі расці дурнямі?). Але гэтага было дастаткова, каб, як потым стала вядома, партызаны атрымалі загад яе знішчыць. Нехта з мясцовых выратаваў.

Яна не была ў камсамоле і ў партыі («душа не ляжала»), але яе прафесіяналізм быў нагэтулькі высокі, што не толькі абараніла дысертацыю, але і загадвала інстытуцкай кафедрай беларускага мовазнаўства.

Як выкладчык і як адукаваны чалавек, які цікавіўся гісторыяй, Марыя Пракопаўна, вядома ж, ведала, што чорныя перыяды ў жыцці нацый і народаў цягнуліся дзесяцігоддзямі, нават стагоддзямі. Але мяне заўсёды ўражвалі яе аптымізм і вера ў тое, што Беларусь будзе вольнай і дэмакратычнай. Я не памятаю, каб у размовах, калі я распытваў яе пра Брэст, **Марыя Пракопаўна** скардзілася на нейкія цяжкасці, што любім рабіць мы ўсе. Наадварот – яна распавядала пра добрыя справы яе сяброў і знаёмых. Памятаю, з якой цікавасцю слухаў гэтыя ейныя расповеды **Васіль Быкаў** у Празе. Пра сябе не гаварыла – і толькі ад іншых можна было даведацца, што яна носіць перадачы ў турму палітвязням, што ходзіць па інстанцыях, каб дамагчыся рэабілітацыі рэпрэсаванай жанчыны ў часы бальшавіцкага тэрору, ці што піша звароты ў пракуратуру, калі нехта зневажае беларускую мову, ці што перадае грошы са сваёй сціплай пенсіі ў ТБМ.

А цяпер пра ўчынак, які асабіста я ўспрыняў як урок.

Калі ў красавіку 1995-га дэпутаты Апазіцыі БНФ былі збіты ў Авальнай зале (а потым адбыўся «рэферэндум», у выніку якога былі зменены герб і сцяг, а беларускую мову пазбавілі статусу адзінай дзяржаўнай), шмат каго з палітычных лідараў апанавала апатыя. Некаторыя пакінулі Народны Фронт, увогуле адышлі ад нацыянальнага руху. Сярод іх былі і людзі з гучнымі імёнамі. Яны далучыліся да нацыянальнага руху, калі ён быў на ўздыме, – але пакінулі яго, калі на Беларушчыну пачалося наступленне. Некаторыя аналітыкі вельмі падрабязна і не без пэўнай логікі патлумачылі, чаму гэтае наступленне пачалося і чаму ўсё так амаль што безнадзейна.

Інакш зрабіла Марыя Пракопаўна. Як толькі даведалася пра начныя падзеі 12 красавіка ў Вярхоўным Савеце – яна пайшла ў мясцовую раду БНФ у Брэсце і запісалася ў Народны Фронт.

Мне падаецца, што ў гэтым учынку – увесь характар Марыі Пракопаўны і той галоўны ўрок, які былая выкладчыца беларускай мовы і літаратуры дала тым, для каго беларуская мова гучыць як родная: не здавацца тады, калі твой праціўнік блізкі да перамогі, і верыць у лепшае, калі ўсё выглядае безнадзейна.

***

Калектыў “Народнай Волі” выказвае глыбокія спачуванні родным і блізкім Марыі Пракопаўны Лукашук. Мы будзем заўсёды помніць дарагога сябра “Народнай Волі” і дзякаваць, што давялося жыць побач з такім багатым душою і талентам, нераўнадушным чалавекам.



**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а.**
**Прыёмная:**
**тэл. (017) 3286871.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286609**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

9 772071 964000 15031

**Падпісныя індэксы:** **63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар**
**Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 22.04.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25420 экз. Заказ №1382.**